# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР.**



**№ 11.**

АРТЫКУЛЫ 312—320.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# АД РЭДАКЦЫІ ВЕСЬНІКУ РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 ліпеня г. г., выдаецца афіцыяльны ўрадовы орган «*Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік*», у якім, шляхам заканадаўчага агалашэньня, друкуюцца ўсе дэкрэты і пастановы рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР на шасьцёх мовах: расейскай, украінскай беларускай, грузінскай, армянскай і тюрка-татарскай (арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР).

Маючы на ўвазе забясьпечыць усе органы Рэспублікі афіцыяльным выданьнем пастановаў і загадаў рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР і зрабіць «Весьнік» настольным падсобнікам для ўсіх установаў, Сэкратарыят ЎЦВК, ту у выкананьне паданае вышэй пастановы, на пасяджэньні 17 верасьню г. г. пастанавіу прызнаць абавязковай падпіску на «*Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР*» для губэрскіх выканкамаў у колькасьці ня менш 10 экзэмпляраў, для павятовых выканкамаў — 5 экзэмпляраў і для валасных выканкамаў—1 экзэмпляр.

Дзеля паказанага, Рэдакцыя «Весьніку Ўраду» прыступіла да рассылкі вышаўшых №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10 і 11 «Весьніку» паказаным выканкамам. Што тычыцца іншых дзяржаўных органаў і установаў, дык Рэдакцыя пачне разсылку «Весьніку» толькі пасьля атрыманьня ад іх адпаведных заказаў, у якіх павінна быць паказана: 1) пэўны адрас, водлуг якога належыць высылаць «Весьнік Ўраду», 2) колькасьць выпісваемых экзэмпляраў, 3) на якой з пералічаных вышэй моваў падпісчык жадае атрымоўваць «Весьнік» і 4) на які тэрмін утвараецца падпіска.

Усе заказы на «*Весьнік Ўраду*», а так сама і падпісныя грошы належыць накіроўваць на адрас: *Москва, Тверская, 48, Главная Контора «Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК»*.

Умовы перадплаты паказаны ў абвестцы, зьмешчанай на 3-й старонцы вокладкі «Весьніку».

Масква, Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

### САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

### САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР

**№ 11.**

АРТЫКУЛЫ 312—320.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР

Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

## ЗЬМЕСТ.



# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**312. Наконт зьдзейсьненьня палажэньня аб мяйсцовых фінансах.**

У мэтах забясьпечаньня сродкамі агульных патрэбаў Саюзу ССР на падставе размяжаваньня выдаткаў і прыбыткаў агульнадзяржаўных і мясцовых і дзеля устанаўленьня агульных пачаткаў гэтага размяжаваньня, ЦВК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

I. Зацьвердзіць часовае палажэньне аб мясцовых фінансах, даўшы саюзным рэспублікам, у межах належачай ім, згодна аснаўнога закону Саюзу ССР, компэтэнцыі і вызначанага палажэньня, унасіць у яго дадаткі і зьмены.

II. Увясьці часовае палажэньне аб мясцовых фінансах (апублікована у пастановах II сэсіі ЦВК Саюзу ССР) у дзейнасьць зараз жа па апублікаваньні гэтага закону з наступнымі выняткамі:

А. Ніжэйпералічаныя выдаткі перадаюцца на мясцовыя сродкі да 1 студзеня 1924 году;

1) па утрыманьню трох сяброў валасных выканаўчых камітэтаў, якія ўтрымоўваюцца у цяперашні час па агульнадзяржаўнаму бюджэту;

2) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы губэрскіх аддзелаў упраўленьня і губэрскіх упраўленьняў месцамі заключэньняў, якія ўваходзяць у склад гэтых аддзелаў;

3) па утрыманьню агульных аддзелаў павятовых выкан. камітэтаў з усім іх персональным складам, апрача органаў камунальнай гаспадаркі (як ужо знаходзячыхся на мясцовым бюджэту);

4) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы савецкіх партыйных школаў I і II ступені;

5) на гаспадарчыя патрэбы школаў палітграматы, апрача вучэбных выдаткаў і утрыманьня вучэбнага пэрсаналу;

6) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы губэрскіх аддзелаў народнае асьветы;

7) на утрыманьне псіхіатрычных лячэбнін, за выключэньнем застаючыхся на агульнадзяржаўным, бюджэце згодна асобнаму сьпісу, зацьверджаемага СНК належных саюзных рэспублік;

8) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы губэрскіх аддзелаў аховы здароўя;

9) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы губэрскіх і павятовых зямельных упраўленьняў;

10) па змаганьню з заразьлівымі хваробамі хатніх жывёлаў, за выключэньнем чумы рагастай скаціны, сапу, павальнага запаленьня лёгкіх, павальных хваробаў сьвіней і сыбірскай язвы, выдаткі па змаганьню з якімі адносяцца на агульнадзяржаўныя сродкі;

11) па утрыманьню усей павятовай і вучасткавай зоотэхнічнай сеткі, а роўна па запрацаванай плаце агранамічна-тэхнічнаму пэрсаналу, за выключэньнем губэрнскіх мастакоў, утрыманьне якіх застаецца на агульнадзяржаўным бюджэце, згодна пагубэрскага штатнага раскладу, складаемага і зацьверджаемага належнымі органамі саюзных рэспублік;

12) на прапаганьдзе асьветна-агранамічнага характару, пабудаваньню курсаў, лекцыяў, выставак, выданьні брашур, плакатаў і інш;

13) па бягучаму дробнаму рамонту воінскіх казарм;

14) па абсталяваньню воінскіх зборных пунктаў;

15) па утрыманьню працоўных камераў і сэсіяў пры народных судах;

16) на выплату назначаемых саўнаркомамі саюзных рэспублік пэрсанальных пэнсіяў асобам, адтрымоўваўшым утрыманьне па мясцовых бюджэтах;

17) на гаспадарчыя і канцэлярскія патрэбы губэрскіх аддзелаў социяльнай забясьпекі.

Б. Выдаткі па харчаваньню курсантаў савецкіх партыйных школаў I ступені перадаюцца на мясцовыя сродкі з 1924—1925 вучэбнага году, прычым СНК заюзных рэспублік даецца перадаць гэтыя выдаткі на мясцовыя сродкі і раней, але толькі у губэрнях, ўладаючых вялікшай эканамічнай магутнасьцю, і з тым, каб водпуск сродкаў на гэту патрэбу па агульнадзяр-

жаўнаму бюджэту не неравышаў пяцідзесяці процантаў каштарысных намераў.

В. Устанаўліваемае часовым палажэньнем адлічэньне у мясцовыя сродкі ад дзяржаўнага прамысловага падатку (арт. 36, п. «б» часовага палажэньня) уводзіцца у дзейнасьць 31 студзеня 1924 году.

Г. Парадак зьдзейсьненьня правілаў часовага палажэньня аб мясцовых фінансах, якія адносяцца да валасных бюджэтаў, устанаўліваецца асобнай пастановай ЦВК Саюзу ССР.

III. Скасаваць:

1) дэкрэт СНК, РСФСР аб мясцовых грашовых сродках ад 22 жніўня 1921 году (Зб. Зак. РСФСР 1921 г., № 62, арт. 446);

2) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб мясцовых бюджэтах ад 10 сьнежня 1921 г. (Зб. Зак. РСФСР 1921 г. № 80, арт. 691);

3) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб мясцовых грашовых сродкаў ад 9 сьнежня 1921 г. (Зб. Зак. 1921 г., № 80, арт. 693);

4) пералік выдаткаў, падлягаючых занясеньню на мясцовыя сродкі, зацьверджаны УВЦК і СНК РСФСР 10 сьнежня 1921 г. (Зб. Зак. РСФСР 1921 г., № 80, дадаток да арт. 693);

5) пастанова III сэсіі УЦВК РСФСР аб грашовым падворным падатку знадворку гарадзкіх пасяленьняў дзеля здавальненьня мясцовых патрэбаў ад 25 траўня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 37, арт. 431);

6) пастанова УЦВК і СНК РСФСР аб парадку устанаўленьня мясцовых падаткаў і збораў ад 8 чэрвеня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 40, арт. 465);

7) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб устанаўленьні мясцовага падатку з грамадзянскіх відавішчаў і ігрышчаў ад 22 чэрвеня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 42, арт. 495);

8) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб пералічэньні наступленьняў прампадатку на умацненьне мясцовых сродкаў ад 24 чэрвеня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 42, арт. 501);

9) пастанова СНК РСФСР аб аб'яднаньні мясцовых прыбыткаў кіррэспублікі ад 16 жніўня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 52, арт. 659);

10) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб перадачы выдаткаў з агульнадзяржаўнага бюджэту у мясцовыя ад 17 жніўня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 52, арт. 666);

11) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб з'іначаньні пераліку мясцовых падаткаў і збораў ад 29 жніўня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 55, арт. 696);

12) дэкрэт СНК РСФСР аб устанаўленьні пераліку скацінны, падлягаючага абкладаньню мясцовым падаткам, ад 26 верасьня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 61, арт. 782);

13) дэкрэт СНК РСФСР аб абавязаньні мясцовых выканаўчых камітэтаў забясьпечыць воінскія часьці памяшканьнем, асьвятленьнем, вадаспабжэньнемт і асэнізацыяй ад 13 кастрычніка 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 66, арт. 861);

14) дэкрэт СНК РСФСР аб парадку спагнаньня мясцовага падатку з дравясіны ад 24 кастрычніка 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 66, арт. 869);

15) дэкрэт СНК РСФСР аб мясцовым квартырным падатку ад 31 кастрычніка 1922 т. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 67, арт. 889);

16) дэкрэт УВЦК і СНК РСФСР аб адсрочцы, рассрочцы і складаньні мясцовых грашовых падаткаў і збораў і сумаў, неправідлова паступіўшых у гэтыя зборы ад 2 лістападу 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 67, арт. 894);

17) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб прыбытках, зварочваемых на умацненьне мясцовых сродкаў ад 16 лістападу 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 77, арт. 957);

18) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб узвышэньні ставак некаторых мясцовых падаткаў і збораў ад 23 лістападу 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 78, арт. 980);

19) пастанова УЦВК і СПА РСФСР аб адлічэньні у загад эканамічных нарадаў з прадукцыі рыбнай гаспадаркі РСФСР часьціны здабытай рыбы ад 14 сьнежня 1922 г. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 81, арт. 1033);

20) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб з'іначаньні падзелу VIII пераліку выдаткаў, падлягаючых занясеньню на мясцовыя грашовыя сродкі ад 4 студзеня 1923 г. (Зб. Зак. (РСФСР 1923 г., № 2, арт. 28);

21) правілы аб мясцовым падатку з прамысловых садоў і прамысловых гародаў, зацьверджаныя УЦВК і СНК РСФСР 5 студзеня 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 2, арт. 33);

22) тарыф абмяжаваных ставак мясцовага падатку з прамысловых садоў і гародаў, зацьверджаны УЦВК і СНК 5 студзеня 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 2, арт. 33);

23) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР об дадатку пераліку выдаткаў, падлягаючых перанясеньню на мясцовыя сродкі, ад 11 студзеня 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 58);

24) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб звальненьні ад абкладаньня мясцовымі падаткамі і зборамі маемасьці ваеннага і марскога, а роўна ваенна-санітарнага і ваенна-вэтэрынарнаго ведамстваў ад 8 лютага 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 12, арт. 146);

25) пункт 2-і дэкрэту ЦВК і СНК РСФСР аб з'іначаньнях арт. арт. 2 і 9 пастановы аб зьдзейсненьні палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку ад 15 лютага 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 15, арт. 188);

26) пастанова СПА аб натуральным працгужпадатковым абкладаньні на мясцовыя патрэбы у губэрнях, пераведзеных на грашовую замену працгужпадатку, ад 16 лютага 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 18, арт. 225);

27) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб устанаўленьні адлічэньня на умацненьне мясцовых сродкаў вялічынёю у 50% ад спадкаўшчыдных мытаў ад 22 сакавіка 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 24, арт. 284);

28) пастанова УЦВК і СНК РСФСР аб адлічэньнях з дзяржаўных падаткаў у мясцовыя сродкі ад 10 траўня 1923 г. (Зб. Зак РСФСР 1923 г., № 49, арт. 482);

29) дэкрэт УЦВК і СНК РСФСР аб узвышэньні ставак некаторых мясцовых падаткаў і збораў ад 13 чэрвеня 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 95, арт. 539);

30) пастанова СНК Саюзу ССР аб пашырэньні мя-

сцовага падатку з біржавых зьдзелак на знадворкубіржавыя зьдзелкі, рэгістрыруемыя на біржы, ад 17 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 1, арт. 31);

31) пункты 1, 2 і 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР аб адлічэньні у мясцовыя сродкі 25% прыбыткових паступленьняў ад здачы у арэнду дзярж. зямельн. маемасьцяў агульнадзяржанаўнай значьнасьці ад 27 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 3, арт. 58);

32) пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР аб устанаўленьні цьвёрдых абмяжаваных ставак мясцовых падаткаў ад 27 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 3, арт. 62);

33) пастанова СНК Саюзу ССР аб парадку пакрыцьця выдаткаў па расквартараваньню часьцей, установаў і завядзеньняў войскаў ДПУ ад 13 жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК,СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г. № 4, арт. 100).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 313. Палажэньне аб маемасьцях мясцовых саветаў.

**1.** Мясцовыя маемасьці складаюць:

а) дзяржаўныя маемасьці, у тым ліку прадпрыемствы, арганізаваныя на падставе дэкрэту СНК Саюзу ССР ад 17 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 1, арт. 29), знаходзячыяся на тэрыторыі мясцовых саветаў, паколькі гэтыя маемасьці не знаходзяцца у веданьні цэнтральных органаў Саюзу ССР і саюзных рэспублік і не ўвайшлі у склад прадпрыемстваў агульнадзяржаўнай значнасьці;

б) маемасьці, якія паступаюць у веданьне мясцовых саветаў, на падставе асобных законапалажэньняў.

Увага 1. Пад мясцовымі саветамі разумеюцца у гэтым палажэньні губэрскія, павятовыя і валасныя зьезды саветаў і гарадзкія саветы, а таксама зьезды і саветы іншых належных па значнасьці, адміністратыўна-тэрыторыяльных адзінак. Пастановы далейшых артыкулаў гэтага палажэньня, датычныя губэрскіх, павятовых і валасных зьездаў саветаў і гарсаветаў, пашыраюцца на належныя ім па значунасьці мясцовыя органы іншых назваў.

Увага 2. Інструкцыя аб парадку складаньня сьпісаў мясцовай маемасьці выдаецца НКГС кожнай саюзнай рэспублікі па згодзе з зацікаўленымі ведамствамі тэй жа рэспублікі.

**2.** Загад мясцовымі маемасьцямі належыць у межах належных адміністратыўна-тэрыторыяльных адзінак губэрскім, павятовым і валасным зьездам саветаў і іх выканаўчым камітэтам, а таксама гарсаветам і іх выканаўчым органам.

**3.** Разьмяркаваньне мясцовай маемасьці робіцца памяркоўна з агульнымі дырэктывамі належных наркаматаў, паміж губэрніяй, губэрскім местам і паветамі губэр. выкан. камітэтам (краін. выкан. камітэтам), а паміж паветам, местамі павету і валасьцямі—пав. выкан. каміт.

Увага. Пастановы выкан. камітэтаў аб разьмяркаваньні маемасьцяў могуць быть абжальбаваны у вышэйшыя інстанцыі у агульным парадку.

**4.** Разьмяркаваньне мясцовай маемасьці робіцца на падставе наступных адзнакаў: 1) месца знаходжаньня гэтае маемасьці; 2) району ім абслугоўваемага; 3) найбольш гаспадарчага і мэтазгоднага способу яго адміністрыраваньня і скарыстаньня.

**5.** Маемасьці, якія паступаюць у парадку, выкладзеным у папярэдніх артыкулах, у веданьне мясцовых саветаў, заносяцца у інвэнтарную кнігу маемасьцяў апошніх, якая вядзецца губэрск. аддзелам грашовых справаў.

**6.** Вынятак паступіўшых у парадку папярэдніх артыкулаў у веданьне мясцовых органаў маемасьцяў, можа пасьледаваць выключна па пастанове Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР або прэзыдыуму ЦВК належнай саюзнай рэспублікі па належнасьці, якая уступае ў моц з пачатку наступнага бюджэтнага пэрыоду, але не раней, чым праз тры месяцы пасьля яго апублікаваньня.

Увага. У межах губэрні, пераразьмяркаваньне паступіўшых у веданьне мясцовых саветаў у парадку папярэдніх артыкулаў маемасьцяў можа быць зроблена па пастанове, у кожным асобным выпадку, губэрскага зьезду саветаў, уступаючаму у моц з пачатку наступнага бюджэтнага году, але не раней, чым праз тры месяцы па яго прыняцьці. Памянёныя у гэтай увазе пастановы губэрскага зьезду саветаў могуць быть зацікаўленымі саветамі абжальбаваны у парадку увагі да арт. III гэтага палажэньня.

**7.** Мясцовым саветам даецца эксплёатаваць перададзеныя у іх загад землі, прадпрыемствы і іншую маемасьць як праз фінансіраваньне іх у бюджэтным парадку, гэтак і праз перавод на дзяржразьлік, а таксама праз здачу у арэнду або канцэсію.

Увага. Парадак здачы мясцовых маемасьцяў у арэнду або канцэсію вызначаецца асобнымі законапалажэньнямі.

**8.** Будовы, як маламерныя, гэтак і паўразбураныя, або патрабуючыя капітальнага рамонту, а таксама рэчы абарудаваньня і інвэнтару прадпрыемстваў, якія знаходзяцца у загадзе мясцовых саветаў, могуць быць адчуждаемы у парадку і на падставе, вызначаных асобнымі законапалажэньнямі, пры чым усе опэрацыі, зьвязаныя з адчужджэньнем маемасьцяў, фіксыруюцца у інвэнтарнай кнізе.

**9.** Мясцовыя саветы маюць права, у межах адумысловых на гэты прадмет законапалажэньняў, заключаць пазыкі і праз пасрэднасьць належных аддзелаў Выканаўчых Камітэтаў уваходзіць пайшчыкамі у акцыянэрныя таварыствы і іншыя гаспадарчыя арганізацыі, ўступаць у дагаворныя абавязацельствы, шукаць і адказываць па маентных справах з захаваньнем агульных правілаў, устаноўленых дзеля дзяржаўных органаў.

**10.** Саўнаркомы саюзных рэспублік на падставе гэтага палажэньня выдаюць належныя законы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

**314. Аб зьдзейсьненьні валаснога бюджэту.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

**1.** Увясьці усюды, за выключэньнем рэспублік, не маючых тэрыторыяльных адзінак, належных воласьці, да 1 студзеня 1924 г. валасныя бюджэты на падставе арт. 18 (разьдз. II) і разьдзелу V (падзелы I і II) часовага палажэньня аб мясцовых фінансах.

Увага 1. Гэта пастанова пашыраецца на адміністратыўна-тэрыторыяльныя адзінкі валаснога значаньня іншых назваў.

Увага 2. У выпадках асобных перашкодаў па ўвядзеньню валасных бюджэтаў губэр. выкан. камітэтаў (краін. вык. камітэтам рэспублік, не маючых губэрскага дяленьня) даецца хадатайстваваць праз належныя ЦВК і прад ЦВК Саюзу ССР аб адсрочцы ўвядзеньня валасных бюджэтаў.

**2.** Саўнаркомы саюзных рэспублік даюць належныя паказаньні губэр. выкан. камітэтам (краін. выкан. камітэтам аб складаньні і выданьні на падставе гэтае пастановы, часовага палажэньня аб мясцовых фінансах і інструкцыяў наркамфіну Саюзу ССР—правілаў і інструкцыяў па ажыцьцяўленьню валасных бюджэтаў па кожнай губэрні (або належнай ей тэрыторыяльнай адзінцы).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**315. Аб парадку упраўленьня прамысловымі прадпрыемствамі, маючымі агульнасаюзнае значаньне і знаходзячыміся у веданьні Вышэйшых Саветаў Народнай Гаспадаркі.**

На падставе п. „з“, арт. 1, Аснаўнога Закону Саюзу ССР, у мэтах дакладнага вызначэньня асобных галін прамысловасьці і асобных прамысловых прадпрыемстваў, маючых агульнасаюзнае значаньне, а роўна дзеля дакладнага размяжаваньня правоў і абавязкаў ВСНГ Саюзу ССР і ВСНГ саюзных рэспублік па упраўленьню прадпрыемствамі агульнасаюзнага значаньня, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Прызнаць маючымі агульнасаюзнае значаньне названыя у дадаваемым да гэтага сьпісу дзяржаўныя прадпрыемствы, дзеля іх першаступеннай значнасьці для абароны Саюзу, дзеля аховы яго інтэрасаў на міравым рынку і дзеля правядзеньня у агульнасаюзным маштабу адзінага пляну адбудаваньня прамысловасьці і транспарту.

**2** Паказаныя у арт. 1 гэтае пастановы прадпрыемствы перадаць у непасрэднае веданьне ВСНГ Саюзу ССР, узлажыўшы на яго ажыцьцяўленьне правоў і спаўненьне абавязкаў ВСНГ, прадгледжаных дэкрэтам аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах, дзеючых на пачатках камэрцыйнага разьліку (трэстах) (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 29, арт. 336) а роўна і іншымі законамі аб дзяржаўнай прамысловасьці

**3.** У парадку кіраваньня прамысловымі прадпрыемствамі агульнасаюзнага значаньня ВСНГ Саюзу ССР запрашывае заключэньні ВСНГ належных рэспублік пры разгляданьні:

а) пэрспэктыўных вытворчых прадпрыемстваў і іх наступных з'іначаньняў;

б) пэрспэктыўных вытворчых плянаў і гадавых праграмаў і каштарысаў;

в) гадавых справаздачаў і заключыцельных гадавых балансаў;

г) агульных плянаў фінансіраваньня і адумысловага крэдытаваньня агульных прадпрыемстваў, а таксама пытаньняў прыцягваньня прыватных капіталаў;

д) асабістага складу рэвізыйных камісіяў.

**4.** Кіраўніцтвы агульнасаюзных прадпрыемстваў абавязаны, адначасна з падачай сваіх вытворчых плянаў, каштарысаў, справаздачаў і балансаў ВСНГ Саюзу ССР, паведамляць іх у копіі ВСНГ належнай саюзнай рэспублікі.

**5.** Пастановы, вынясеныя ВСНГ належнай саюзнай рэспублікі, пры разгляданьні пададзеных яму, на падспаве арт. 4 гэтага дэкрэту, кіраўніцвамі агульнасаюзных прадпрыемстваў матар'ялаў, паведамляюцца ВСНГ Саюзу ССР і прыводзяцца у выкананьне толькі па зацьверджаньні апошнім.

**6.** ВСНГ Саюзу можа перадаваць вышэйшым саветам народнай гаспадаркі саюзных рэспублік поўнасьцю або у вызначанай частцы свае правы па упраўленьню знаходзячымся у веданьні ВСНГ Саюзу прадпрыемствамі, у межах дэкрэту аб дзяржаўных прамысловых прадпрыемствах (трэстах) і на падставе асобнага кожны раз улагоджаньня, зацьверджаемага Саўнаркомам Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

Дадатак да арт. 315.

**Сьпіс прадпрыемстваў, маючых агульнасаюзнае значаньне.**

I. ВАЕННАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

II. МЭТАЛІЧНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Паўднёвая сталь (аб'яднанае кіраўніцтва Пятроўскіх, Макееўскіх і Юзаўскіх заводаў і руднікаў).
2. Урал: а) Багаслоўскі горназаводзкі трэст;
   б) Уральскі медны трэст;
   в) Паўднёва-Уральскі трэст;
   г) Пермскі трэст.
3. Дзяржаўн. прамысловасьць каляров. мэталаў (аб'яднаньне дзяржаўных прадпрыемстваў па здабычы і апрацоўцы каляровых мэталаў).
4. Дзярж. аб'ядн. машын. завод. (дзяржаўнае аб'яднаньне машынабудаўнічых заводаў).
5. Петраградзкі машынатрэст.
6. Чырвоны Кастрычнік (быўш. Дюмо, у Царыцыну).

7. Фокінская заводзкая акруга (быўш. Мальцэўская).
8. Петраградзкі судатрэст.
9. Электрасталь.
10. Цудзяржз (цэнтральнае упраўленьне дзяржаўных аўтамабільных заводаў).
11. Аб'яднаньне Цупваз (цэнтральнае упраўленьне ваенна-абозных заводаў).
12. Петраградзкі аптычны завод.
13. Глаўшвеймашына.
14. Паўднёвы машынабудаўнічы трэст.

Увага. Права по упраўленьню паўднёвым машынабудаўнічым трэстам, у парадку арт. 6 дэкрэту „аб парадку упраўленьня прамысловымі прадпрыемствамі", перадаецца Украінскай ССР.

## III. ГОРНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

### а) Золатаплацінавая прамысловасьць.

Трэсты:

1. Лензолата.
2. Уралплаціна.

### б) Рудная прамысловасьць.

Трэсты:

1. Каўцынк (дзяржаўнае каўкаскае цынкава-сьвінцавае аб'яднаньне).
2. Расейскія самацветы (аб'яднаньне на здабычы, апрацоўцы і збыту самацьветных каменьняў).

## IV. ТОПЛІЎНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

### а) Вуглёвая прамысловасьць.

1. УДКП (Донбаса упраўленьне дзяржаўнай каменнавуглёвай прамысловасьці Данецкага вадазбору).
2. УДКП Падмаскоўнага вадазбору.
3. Кузбас-трэст: Кузнецкі вадазбор (Сыбір).
4. Чэрэмбас-трэст: Чэрэмхоўскі вадазбор.
5. Кізелаўскія копі.
6. Чэлябінскія копі.

### б) Нафтавая прамысловасьць.

1. Аб'яднаньне Азнэфць.
2. Аб'яднаньне Грознэфць.
3. Аб'яднаньне Эмбанэфць.

## V. ЛЯСНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Паўночналес (упраўленьне лясной і дзеравaапрацоўваючай прамысловасьцю Паўночнага краю).
2. Петралес (упраўленьне лясной і дзеравaапрацоўваючай прамысловасьцю Петраградзкага району).
3. Дзьвіналес (упраўленьне лясной і дзеравaапрацоўваючай прамысловасьцю вадазбору Заходняй Дзьвіны).
4. Фанэрны трэст.

## VI. ХІМІЧНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Гумалястатрэст.
2. Бондюжскае аб'яднаньне.
3. Анілтрэст.
4. Фарматрэст.
5. Коксабянзол.
6. Лакакраска.
7. Ацетамеціл.
8. Сантанінны завод.

## VII. ПАПЯРОВАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Цэнтрапаптрэст.

## VIII. ТЭКСТЫЛЬНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

### а) Хлапковапапяровая прамысловасьць.

1. Уладзімірска-Александраўскі трэст.
2. Маскоўскі трэст.
3. Прэсненскі трэст.
4. Яраслаўскі трэст.
5. Коўроўскі трэст.
6. Серпухоўскі трэст.
7. Егор'еўска-Раменскі трэст.
8. Пэтратэкстыль трэст.
9. Багародска-Шчэлкаўскі трэст.
10. Іванава-Вазьнясенскі трэст.
11. Арэхава-Зуеўскі трэст.
12. Цьвярскі трэст.
13. Дзяржаўная кардная прамысловасьць.
14. Бердарамізная прамысловасьць.

### б) Шэрсьцяапрацоўваючая прамысловасьць.

1. Сімбірскі трэст.
2. Тамбоўскі трэст.
3. Пензенскі трэст.
4. Моссукно трэст.
5. Камвольны трэст.

### в) Льняная прамысловасьць.

1. 1-ае Льнакіраўніцтва.
2. Вязьнікоўскі трэст.
3. Яраслаўскі трэст.
4. Аўт. фабрыка „Рало".

### г) Пяньковая прамысловасьць.

1. Петраградзкі пяньковы трэст.

### д) Шаўковая прамысловасьць.

1. Шаўкокіраўніцтва.

## IX. ХАРЧОВАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Цукертрэст.
2. Гарбатаупраўленьне.

Увага. Цукертрэст заставіць за ВСНГ Саюзу, даручыўшы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР разглядзець пытаньне аб арганізацыйных формах упраўленьня цукернай прамысловасьці, з учотам інтэрасаў і з удзелам прадстаўнікоў зацікаўленых рэспублік.

X. ЭЛЕКТРОТЭХНІЧНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Электротэхнічны трэст.
2. Электрамашына-трэст, у Петраградзе.
3. Усерасійскі трэст слабых токаў.
4. Аб'яднаньне акумуляторных заводаў.

XI. ШКУРАНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.

1. Таганрогскі шкураны трэст.

Увага. Арганізацыя назіраньня за выкананьнем умоваў па прадпрыемствам, зданым у концэсыю, ускладаецца на вышэйшы савет народнай гаспадаркі Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* А. Чэрвякоў.

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* А. Енукідзе.

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

**316.** **Наконт зьдзейсьненьня палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку.**

**1.** Замест падаткаў, якія спаганяліся ў 1922—23 бюджэтным годзе ў гарадзкіх пасяленьнях: а) дзяржаўных: працгужпадатку, агульнаграмадзянскага для дапамогі сельскай гаспадарцы, прыбыткова-памаентнага і падатку з асобаў, якія атрымоўваюць высокую заробачную плату; б) мяйсцовых: кватэрнага і падатку з асобаў, якія карыстаюцца наемнаю працаю для хатняга абіходу,—увясьці ад 1-га кастрычніка 1923 году прыбыткова-памаентны падатак, на падставе палажэньня, якое зацьвярджаецца сёньня.

**2.** З ажыцьцяўленьнем памянёнага ў арт. 1 палажэньня аб прыбыткова-памаентным падатку лічыць скасаванымі наступныя ўзаконеньні:

дэкрэт Савету Народных Камісараў РСФСР ад 22-га лістападу 1921 г. аб зьдзейсьненьні працгужпадатковых павіннасьцяў на пачатках працгужпадатку (Зборн. Зак. РСФСР 1921 г., № 78, арт. 658);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 7-га сьнежня 1921 г. аб снабжэньні рабгужсілай, якая прыцягваецца ў парадку працгужпадатку (Зборн. Зак. РСФСР 1921 г., № 79, арт. 671);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 5-га студзеня 1922 г. аб узьмяшчэньні страт, панясёных на гужавой павіннасьці, дзеля падзяжу жывёлы ці псуцьця мёртвага інвентара (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 5, арт. 35);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 13-га сакавіка 1922 г. аб узнагародзе асобам, неправідлова абложаных працгужпадаткам (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 24, арт. 269);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 26-га красавіка 1922 г. аб зьдзейсьненьні працгужпадатку ў мяйсцовасьцях РСФСР, захопленых няўраджаем (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 30, арт. 362);

пастанова Савету Працы і Абароны ад 13-га чэрвеня 1922 г. аб парадку замены працгужпадатку іншымі відамі абкладаньня (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г, № 40, арт. 479);

арт. арт. 1—4 дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 20-га ліпеня 1922 г. аб льготах для перасяленцаў і разсяленцаў (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 46, арт. 567);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 26-га ліпеня 1922 г. аб парадку учоту работ, якія выконьваюцца па працгужпадатку (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 47, арк. 585);

арт. 24 разьдзелу „А“ пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 29-га жніўня 1922 г. аб з'іначаньні пераліку мяйсцовых падаткаў і збораў (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 55, арт. 696);

дэкрэт Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 2-га лістападу 1922 г. аб устанаўленьні адзіначасовага агульнаграмадзянскага падатку для дапамогі вясковай селянскай гаспадарцы і ліквідаваньня вынікаў голаду (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 67, арт. 892);

пастанова Савету Народных Камісараў ад 9-га лістападу 1922 г. аб дазваленьні спаганьня працгужпадатку ў грашовай форме ад 1-га сьнежня 1923 г. (Зборн. Зак. РСФСР, № 75, арт. 928);

зацьверджанае Ўсерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў 16-га лістападу 1922 г. палажэньне аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 78, арт. 981);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 25-га лістападу 1922 г. аб зацьверджаньні акладаў агульнаграмадзянскага падатку для г. Масквы (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 79, арт. 995);

пастанова Савету Народных Камісараў РСФСР ад 1-га сьнежня 1922 г. аб устанаўленьні выняткаў з дэкрэту аб агульнаграмадзянскім падатку (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 80, арт. 1012);

пастанова Савету Працы і Абароны ад 6-га сьнежня 1922 г. аб устанаўленьні працгужпадатку на студзень—верасень 1923 г. (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 8, арт. 1020);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнаго Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 7-га сьнежня 1922 г. аб адсрочцы тэрміну падачы дэкларацыяў па прыбыткова-памаентнаму падатку (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 80, арт. 1025);

пастанова Савету Працы і Абароны ад 13-га сьнежня 1922 г. аб устанаўленьні пераліку губэрняў, у якіх працгужпадатак пастаноўлена спаганяць у грашовай і натуральна-грашовай формах (Зборн. Зак. РСФСР 1922 г., № 81, арт. 1039);

зацьверджаныя Ўсерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў 18 студзеня 1923 г. правілы спаганьня падатку з асобаў, якія атрымоўваюць высокую заробачную плату (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 4, арт. 80);

пастанова Ўсерасійскага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 15-га Студзеня 1923 г. аб з'іначаньні акладаў агульнагранадзянскага падатку для дапамогі вясковай селянскай гаспадарцы і ліквіда-

ваньня вынікаў голаду (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 8, арт. 110);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 15-га лютага 1923 г. аб з'іначаньні арт. арт. 2 і 6 пастановы наконт зьдзейсьненьня палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 15, арт. 188);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 15 лютага 1923 г. аб грашовай замене працгужпадатку (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 15, арт. 191);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 8-га траўня 1923 г. аб усганаўленьні ставак грашовай замены працгужпадатку на другі пэрыод 1923 г. (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 40, арт. 429);

пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 10-га траўня 1923 г. аб з'іначаньні парадку прыцягненьня да прыбытковага падатку асоб, атрымоўваючых высокую заробачную плату (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 43, арт. 457);

арт. 1 пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 10-га траўня 1923 г. аб адлічэньнях з дзяржаўных падаткаў у мяйсцовыя сродкі (Зборн. Зак. РСФСР 1923 г., № 49, арт. 482);

пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ад 27-га ліпеня 1923 г. аб з'іначаньні разрадаў абкладаньня прыбыткова-памаентным падаткам (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 3, арт. 55).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 317. Палажэньне аб дзяржаўным прыбыткова-памаентным падатку.

**1.** Дзяржаўнаму прыбыткова-памаентнаму падатку падлягаюць, за выняткамі, паказанымі у арт. 2, усе асобы, маючыя самастойныя прыбыткі і пражываючыя на абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, акцыянэрныя таварыствы (паевыя таварыствы) і крэдытовыя установы, кіраўніцтвы якіх знаходзяцца на абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, роўна дапушчаныя да опэрацыяў на абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік прадстаўніцтвы замежных фірмаў.

Увага. Выняткі у адносінах абкладаньня падаткам дапушчаных да опэрацыяў на абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік замежных фірмаў дапушчаюцца толькі на пачатках узаемнасьці.

**2.** Падатку не падлягаюць: а) асобы, атрымоўваючыя прыбытак ад заняткаў сельска-гаспадарчым промыслам, абкладаемым адзіным сельска-гаспадарчым падаткам (Збор. Законаў РСФСР 1923 г., № 42, арт. арт. 451 і 452); б) рабочыя і служачыя у установах, прадпрыемствах і гаспадарках, адтрымоўваючыя запрацаваную плату вялічынёю меньш чым 75 рублёў у чырвонным вылічэньні у месяц і не маючыя іншых крыніц прыбытку; в) ваенна-служачыя і міліцыанэры, г) вучні дзяржаўных навучальных установаў; д) інваліды, няздольныя да працы і знаходзячыяся на сродках органаў соцыяльнай забясьпекі і органаў соцыяльнага страхаваньня, або прыватных асобаў і арганізацыяў; е) жанчыны, маючыя на сваей апецы дзяцей малодшых 14 гадоў або іншых няпрацаздольных сяброў сям'і, калі яны самастойна, бяз чужой помачы, утрымліваюць сябе і сям'ю; ж) зарэгістраваныя на біржы працы беспрацоўныя, карыстаючыяся правам на падмогу і не маючыя іншых крыніцаў прыбытку, з) не адтрымліваючыя самастойнага прыбытку жонкі і сябры сямейств плацельшчыкаў падатку і асобаў, звольненых ад яго і наогул асобы, пражываючыя на чужых сродках і не маючыя сваіх сродкаў да істнаваньня; і) прадстаўнікі замежных дзяржаваў на пачатках узаемнасьці; к) дзяржаўныя і коопэратыўныя прадпрыемствы і зьмешаныя таварыствы, абкладаемыя прыбытковым падаткам на падставе палажэньня ад 20 чэрвеня 1923 г. (Збор. Законаў РСФСР 1926 г. № 61, арт. 573).

Увага. Паказаныя у п. п. „а“, „в“, „г“, „е“ вынятк не пашыраюцца на асобаў, належачых да IV—VI групам, прадгледжаных арт. 6, і да катэгорыі „В“ (арт. 7).

**3.** Усе падлягаючыя падатку асобы падзеляюцца на наступныя катэгорыі:

А. Асобы, адтрымліваючыя прыбытак ад асабістай працы на найму.

Б. Асобы, адтрымліваючыя прыбытак ад уладаньня прамысловымі і гандлёвымі прадпрыемствамі, будовамі, капіталамі ад арэндаваньня маемасьці і ад іншых непрацоўных крыніцаў прыбытку.

Г. Юрыдычныя асобы: акцыянэрныя таварыствы (паевыя таварыствы), крэдытовыя установы.

**4.** Да катэгорыі „А“ арт. 3 адносяцца рабочыя і служачыя у установах, прадпрыемствах і гаспадарках, адтрымліваючыя запрацаваную плату вялічынёю меньш чым 75 рублёў у чырвоным вылічэньні у месяц.

**5.** Асобы, памянёныя у арт. 4, выплачваюць прыбытковы падатак вялічынёю наступных паўгадавых ставак у чырвоным вылічэньні: а) асобы, адтрымліваючыя у месяц ад 75 да 100 р.—3 р. 60 к.; б) асобы, адтрымліваючыя у месяц звыш 100 р. да 150 руб.—7 р. 20 к.; в) асобы, адтрымліваючыя у месяц звыш 150 р.—15 руб. і зьверх таго падлягаюць абкладаньню у парадку арт. 13 і наступных, але ад падатку, вылічаемага па каштоўнасьці маемасьці (арт. 17), звальняюцца.

Падатак спаганяецца роўнымі часткамі штомесячна.

**6.** Да катэгорыі „Б“ арт. 3 адносяцца наступныя групы плацельшчыкаў: I) рамесьнікі і кустары, не карыстаючыяся наемнай працай; II) грамадзяне, займаючыяся адзінаасабова рознымі дробнымі промысламі; III) грамадзяне, адзінаасобова займаючыяся фурман-

ствам: легкавым і ламавым; IV) грамадзяне, спаўняючыя адзінаасабова, па заказах і даручэньнях, працу, патрабуючую адумысловых тэхнічных ведаў або прыладаў, як: зубныя тэхнікі, чарцёжнікі, асобы, складаючыя пляны і каштарысы і г. п.; V) грамадзяне, займаючыяся асабіста, бяз утрыманьня кантор і служачых, выкананьнем за плату прыватных даручэньняў (фактары, гандлёвыя агенты), а таксама районныя інсьпектары і агенты крэдытных і страхавых установаў і вандроўныя прыказчыкі, гандлюючыя па прыкладам; VI) асобы, займаючыяся вольнымі профэсіямі: вольнапрактыкуючыя ўрачы, зубныя ўрачы, вэтэрынары, інжэнэры, архітэктары і г. п., а таксама служыцялі рэлігійных культаў; VII) усе іншыя асобы, адтрымліваючыя прыбыткі ад асабістай працы і не належачыя да катэгорыі „А“.

**7.** Асобы, аднесеныя да катэгорыі „В“, падзяляюцца на наступныя групы: I) уладары гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў 1-га разраду; II) ўладары і суўладары гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў 2-га разраду; III) ўладары і суўладары гандлёвых прадпрыемстваў 3-га разраду і прамысловых 3—4 разрадаў; IV) уладары і суўладары прадпрыемстваў гандлёвых 4-га разраду і прамысловых 5—7 разрадаў; V) асобы, займаючыяся камісіённымі, маклерскімі, экспэдытарскімі, крэдытнымі і біржавымі опэрацыямі бяз утрыманьня кантор; VI) уладары і суўладары прадпрыемстваў гандлёвых 5-га разраду і прамысловых 8—12 разрадаў; VII) уладары будоваў у местах і здаваемых у наем будоваў звонку местаў; VIII) асобы, адтрымліваючыя прыбыткі ад арэндаваньня у местах маемасьцяў з мэтай камэрцыйнай эксплёатацыі; XI) асобы, пражываючыя на прыбыткі ад грашовых капіталаў, процантных і дзівідэндных папераў; X) усе іншыя грамадзяне, адтрымліваючыя прыбыткі ад ўладаньня маемасьцю, прадпрынімацельскай чыннасьці і іншых непрацоўных крыніцаў прыбытку, непрадгледжаных папярэднімі пунктамі.

**8.** Вялічыня акладаў падатку дзеля плацельшчыкаў катэгорыяў „Б“ і „В“ размяркаваньнем плацельшчыкаў па групам і поясам мясцовасьцяў, у якіх яны жывуць, устанаўліваюцца дадаваемымі раскладамі (дадатак № 1 — па катэгорыі „Б“ і дадатак № 2 па катэгорыі „В“) Разьмяркаваньне мясцовасьцяў па поясам устанаўліваецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**9.** Плацельшчыкі, падлягаючыя прыцягваньню да падатку па некалькіх групах, абкладваюцца па вышэйшай з іх.

**10.** Тыя з асобаў, памянёных у арт. арт. 6 і 7 і ў п. „в“ арт. 5, паўгадавы прыбытак якіх перавышае вялічыню, паказаную у арт. 15, абавязаны падаваць дэкларацыі аб сваіх прыбытках і па суме іх падлягаюць абкладаньню у парадку арт. 13 і наступных, а ў належных выпадках і дадатковаму абкладаньню па каштоўнасьці маемасьці (арт. 17).

**11.** Падатак, выплачваемы згодна арт. 8 і п. „в“ арт. 5, залічваецца у выплату складаў, вылічаемых згодна арт. 10.

**12.** Юрыдычныя асобы, паказаныя у п. „Г“ арт. 3, выплачваюць падатак, згодна арт. 10, але ад дадатковага абкладаньня па каштоўнасьці маемасьці (арт. 17) звальняюцца.

**13.** Абкладаньню па купнасьці прыбыткаў падлягаюць тыя плацельшчыкі, якія у паўгодзьзі папярэджаючаму акладнаму, атрымалі прыбытак звыш вялічыні, паказанай у арт. 15, з аднэй або некалькіх пералічаных ніжэй крыніц, як: а) ад удзелу у гандлёвых або прамысловых прадпрыемствах у якасьці уласьнікаў (уладароў, суўладароў), арэндатараў, або пайшчыкаў, або наогул ад усякіх заняткаў гандлем, падрадамі, дастаўкамі, камісіёнымі, маклерскімі, экспэдытарскімі, біржавымі і іншымі опэрацыямі; б) ад уладаньня будынкамі у местах і здаваемых у наем будоваў звонку местаў і ад арэндаваньня будынкаў і маемасьцяў у мэтах камэрцыйнай эксплёатацыі; в) ад грашовых капіталаў, процантных і дзівідэндных папераў; г) ад заняткаў вольнымі профэсыямі (п. VI, арт. 6); д) ад асабістых прамысловых заняткаў; е) ад запрацаванай платы і узнаграджэньня за працу або службу, у установах, прадпрыемствах і гаспадарках, калі гэта плата або узнагараджэньне перавышае 900 рублёў у чырвоным вылічэньні за паўгодзьдзе; ж) ад усякіх іншых крыніц прыбытку, апрача заняткаў сельска-гаспадарчымі промысламі, абкладваемымі адзіным сельска-гаспадарчым падаткам.

**14.** Пад прыбыткам у сэнсе арт. 13 гэтага палажэньня разумеецца: а) дзеля фізычных асобаў—сума адтрыманьняў у грашовай ці натуральнай форме, якая, за пакрыцьцем неабходных вытворчых і гандлёвых выдаткаў, зьвязаных з выцягваньнем прыбытку з дадзенай крыніцы бяз уключэньня у іх адлічаемага уладаром узнаграджэньня сабе і сябрам сваей сям'і можа быць ужыта адтрымацелем на здавальненьне асабістых патрэбаў, або абернена у маемасьць, капітал, зьбераганьні і на пашырэньне прадпрыемстваў; б) дзеля акцыянэрных таварыстваў (паевых таварыстваў) і крэдытных установаў—іх чысты прыбытак выведзены з захаваньнем правілаў, устанаўліваемых народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік (арт. 26).

**15.** Абкладаньню па арт. 13 падлягае купнасьць прыбыткаў, адтрыманых кожным плацельшчыкам у папярэднім паўгодзьдзі з усіх паказаных у арт. 13 крыніц, калі гэта сума прыбыткаў перавысіла у чырвоным вылічэньні: дзеля Масквы і Петраграду—500 рублёў, дзеля местаў 1 поясу—450 руб., дзеля местаў 2 поясу—400 руб., дзеля местаў 3 поясу—350 руб. і дзеля іншых мясцовасьцяў—300 рублёў.

Увага 1. Пры абкладаньні па гэтаму артыкулу рабочых і служачых у установах і прадпрыемствах, прыймаецца у рахунак толькі частка запрацаванай платы і узнаграджэньня па службе, перавышаючая у чырвоным вылічэньні 900 рублёў за паўгодзьдзе.

Увага 2. З абкладваемай купнасьці прыбыткаў, у склад якіх уваходзіць запрацаваная плата ці узнаграджэньне за службу у установах і прадпрыемствах, сумы гэтыя вылічваюцца поўнасьцю, але вялічынёю, не перавышаючай 900 руб. у паўгодзьдзе.

**16.** Па вялічыні купнасьці прыбыткаў плацельшчыкі падзеляюцца на разрады, згодна дадаваемага раскладу раскладаў і падразрадных ставак падатку (дадатак № 3).

**17.** Асобы, выплачваючыя падатак па арт. 13, апрача, рабочых і служачых (арт. 5), зьверх таго аб-

кладваюцца дадатковымі акладамі у парадку, паказаным у арт. 18, калі яны ўладаюць не складаючай прадмету іх промысла маемасьцю, як: экіпажы, коні, прадметы роскашы, дыямэнты і інш., апрача рэчаў звычайнай хатняй абстаноўкі.

**18.** Дадатковыя аклады (арт. 17) вылічаюцца па даваемаму да гэтага артыкулу раскладу (дадатак № 4) з маемасьці у частцы яго каштоўнасьці, перавышаючай у чырвоным вылічэньні мінімум у 300 руб. па разьліку на плацельшчыка і кожнага сябру яго сям'і, сумесна з ім пражываючага і не маючага самастойных прыбыткаў.

**19.** Плацельшчыкі, адтрымліваючыя прыбытак звыш вялічыні, паказанай у арт. 15 абавязаны падаваць у мясцовую вучасткавую па прыбыткова-памаентнаму падатку камісію (арт. 24) у паказаны народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік тэрмін і па устаноўленай форме дакладную дэклярацыю аб суме атрыманых імі у прайшоўшым паўгодзьдзі прыбыткаў, і, ў належных выпадках (арт. арт. 17 і 18), аб каштоўнасьці падлягаючай абкладаньню маемасьці да канца мінулага паўгодзьдзя. За непадачу дэклярацыяў, несвоечасовую іх падачу або дачу органам народнага камісарыяту грашовых справаў няпоўных ведаў можа быць накладзен штраф, па пастанове губэрскіх, або павятовых і належных ім фінансавых аддзелаў вялічынёю да 200 рублёў у чырвоным вылічэньні. Падача ж дэклярацыяў, маючых заведама няверныя веды караецца водлуг належных артыкулаў карачынных кодэксаў саюзных рэспублік.

**20.** У дадатак да дэклярацыяў (арт. 19) плацельшчыкі абавязаны па вымаганьню падаткавых камісіяў, падаваць на словах і на паперы тлумачэньні і дакумантальныя довады (гандлёвыя і канторскія кнігі і інш.). Апрача гэтых довадаў, камісіі кіруюцца маючымі у іх загадзе ведамі аб прыбытках плацельшчыка і аб каштоўнасьці яго маемасьці.

**21.** Падатак выплачваецца па паўгодзьдзям, лічучы першае паўгодзьдзе з 1 кастрычніку па 31 сакавіка, а другое з 1 красавіка па 30 верасьня, у тэрміны, устанаўліваемыя народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Выплата падатку робіцца чырвонцамі або грашовымі знакамі па курсу чырвонца, абвешчанаму у месцы і па дзень выплаты.

**22.** Агульнае на месцах загадваньне спагнаньнем прыбыткова-памаентнага падатку ускладаецца на губэрскія і належныя ім фінансавыя аддзелы.

**23.** Непасрэдныя дзеяньні па абкладаньню падаткам ускладаюцца на фінансавых інсьпектароў пры удзеле камісіі па прыбыткова-памаентнаму падатку і пры помачы фінансавых агентаў. Назіраньне за спагнаньнем падатку, рахунковасьць і справаздачнасьць па прыбыткова-памаентнаму падатку ускладаецца на павятовыя і належныя ім фінансавыя аддзелы.

**24.** Дзеля вылічэньня падатку у кожным падаткавым вучастку утвараюцца пад старшынствам фінансавых інсьпектароў вучастковыя па прыбыткова-памаентнаму падатку камісіі у складзе; аднаго прадстаўніка мясцовага выканаўчага камітэту і аднаго прадстаўніка мясцовага аб'яднаньня прафсаюзаў і двух сяброў ад плацельшчыкаў прыбыткова-памаентнага падатку.

Увага. Дзеля абкладаньня акцыянэрных таварыстваў (паевых таварыстваў) і крэдытных установаў органам народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік даецца утвараць асобныя падатковыя камісіі, склад якіх і район дзеяў вызначаецца інструкцыяй народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (арт. 26).

**25.** На пастановы вучастковых па прыбыткова-памаентнаму падатку камісіяў і фінансавых інсьпэктароў плацельшчыкі могуць прынасіць жальбы у губэрскую (ці належную ей) па прыбыткова-памаентнаму падатку камісію. Апошняя утвараецца пад старшынством асобы, назначаемай выканаўчым камітэтам, у складзе загадчыка падлягаючым фінаддзелам, загадчыка падаткавым упраўленьнем, аднаго прадстаўніка савету народнай гаспадаркі, аднага прадстаўніка губэрскага (або належнага яму) двух прадстаўнікоў савету прафэсыянальных саюзаў і двух сяброў з ліку плацельшчыкаў. Вырашэньні губэрскай камісіі прызнаюцца канчатковымі і могуць быць абжальбаваны толькі у выпадках нарушэньня закону у народны камісарыят грашовых справаў належнай саюзнай рэспублікі, разьвязак якога можа быць абжальбаван у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**26.** Падрабязныя правілы ужываньня гэтага палажэньня, а таксама парадак пералічэньня у чырвонцы сумаў, паказаных у савецкіх грашовых знаках, і наадварот, устанаўліваюцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Аснаўная інструкцыя выдаецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік пя ўлагоджаньню з народным камісарыятам рабоча-селянскай інспэкцыі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

*Дадатак № 1 да арт. 317.*

**РАСКЛАД**

**паўгадавых акладаў з асобаў, атрымліваючых прыбыткі ад асабістай працы па найму.**

(Катэгорыя „Б").

**У чырвоным вылічэньні.**

| Група плацельшчыкаў. | У местах Маскве і Петраградзе. | | У мясцовасьцях: 1-га поясу. | | 2-га поясу. | | 3-га поясу. | | 4-га поясу. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| I | 7 | 20 | 7 | 20 | 5 | 40 | 4 | 20 | 3 | 60 |
| III | 7 | 20 | 7 | 20 | 5 | 40 | 4 | 20 | 3 | 60 |
| III | 9 | — | 8 | — | 7 | 20 | 6 | — | 4 | 60 |
| IV | 12 | — | 10 | 80 | 9 | — | 7 | 20 | 7 | 20 |
| V | 18 | — | 15 | — | 12 | — | 9 | — | 7 | 20 |
| VI | 18 | — | 15 | — | 12 | — | 9 | — | 7 | 20 |
| VII | 7 | 20 | 7 | 20 | 5 | 40 | 4 | 20 | 3 | 60 |

*Дадатак № 2 да арт. 317.*

## РАСКЛАД
### паўгадавых акладаў з асобаў, атрымліваючых прыбыткі ад уладаньня прамысловымі і гандлёвымі прадпрыемствамі, будовамі, капіталамі і ад іншых непрацоўных крыніц прыбытку.

(Катэгорыя „В").

**У чырвоным вылічэньні.**

| Група плацельшчыкаў. | У местах Маскве і Петраградзе. | | У мясцовасьцях: 1-га поясу. | | 2-га поясу. | | 3-га поясу. | | 4-га поясу. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| I | 7 | 20 | 6 | 30 | 5 | 40 | 4 | 50 | 3 | 60 |
| II | 10 | 80 | 9 | 50 | 8 | — | 6 | 70 | 5 | 50 |
| III | 18 | — | 15 | 50 | 13 | — | 11 | — | 9 | — |
| IV | 36 | — | 32 | — | 27 | — | 2[illegible] | — | 18 | — |
| V | 42 | — | 37 | — | 32 | — | 25 | — | 21 | — |
| VI | 72 | — | 63 | — | 54 | — | 45 | — | 36 | — |
| VII | 9 | — | 7 | 75 | 6 | 50 | 5 | 50 | 4 | 50 |
| VIII | 10 | 80 | 9 | 50 | 8 | — | 6 | 70 | 5 | 50 |
| IX | 12 | — | 10 | 50 | 9 | — | 7 | 50 | 6 | — |
| X | 7 | 20 | 6 | 30 | 5 | 40 | 4 | 50 | 3 | 60 |

*Дадатак № 3 да арт. 317.*

## РАСКЛАД
### разрадаў і паўгадовых ставак абкладаньня па купнасьці прыбыткаў.

**У чырвоным вылічэньні.**

| Разрады. | Сума паўгадавога прыбытку. | | Вялічыня акладу. |
|---|---|---|---|
| 1 | — — | Да 500 руб. | 10 руб. |
| 2 | Звыш 500 руб. | „ 600 „ | 16 „ |
| 3 | „ 600 „ | „ 800 „ | 24 „ |
| 4 | „ 800 „ | „ 1000 „ | 36 „ |
| 5 | „ 1000 „ | „ 1200 „ | 53 „ |
| 6 | „ 1200 „ | „ 1600 „ | 79 „ |
| 7 | „ 1600 „ | „ 1200 „ | 115 „ |
| 8 | „ 2000 „ | „ 2500 „ | 165 „ |
| 9 | „ 2500 „ | „ 3000 „ | 227 „ |
| 10 | „ 3000 „ | „ 3500 „ | 295 „ |
| 11 | „ 3500 „ | „ 4000 „ | 370 „ |
| 12 | „ 4000 „ | „ 4500 „ | 451 „ |
| 13 | „ 4500 „ | „ 5000 „ | 539 „ |
| 14 | „ 5000 „ | „ 6000 „ | 682 „ |
| 15 | „ 6000 „ | „ 7000 „ | 892 „ |
| 16 | „ 7000 „ | „ 8000 „ | 1125 „ |
| 17 | „ 8000 „ | — | 1250 „ |
| | | | Плюс 250 рубл на кажныя 1000 руб. зьверх 8000 руб. |

*Дадатак № 4 да арт. 317.*

## РАСКЛАД
### разрадаў і дадатковых акладаў па каштоўнасьці маемасьці.

**У чырвоным вылічэньні.**

| Разрады. | Абкладваемая каштоўнасьць маемасьці. | | Ак. |
|---|---|---|---|
| 1 | — — | Да 500 руб. | 1 руб. 50 кап. |
| 2 | Звыш 500 руб. | „ 750 „ | 3 „ — „ |
| 3 | „ 750 „ | „ 1000 „ | 5 „ — „ |
| 4 | „ 1000 „ | „ 2000 „ | 14 „ — „ |
| 5 | „ 2000 „ | „ 3 00 „ | 27 „ — „ |
| 6 | „ 3000 „ | „ 4000 „ | 44 „ — „ |
| 7 | „ 4000 „ | „ 5000 „ | 65 „ — „ |
| 8 | „ 5000 „ | „ 6000 „ | 90 „ — „ |
| 9 | „ 6000 „ | „ 7000 „ | 118 „ — „ |
| 10 | „ 7000 „ | — | 140 „ — „ |
| | | | Плюс 30 руб. на кажныя 1000 р. зьверх 7000 р. |

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

**318.** **Аб спагнаньні рэнты з зямель гарадзкіх і аддадзеных транспарту.**

**1.** Устанавіць на падставах, паказаных у наступных артыкулах, спагнаньне рэнты з зямель: а) знаходзячыхся у району гарадзкіх пасяленьняў і б) на тэрыторыі, дадзенай транспарту, як у районе гарадзкіх пасяленьняў, гэтак і звонку яго.

Увага. У адносінах зямель, якія знаходзяцца у веданьні воднага транспарту, гэты дэкрэт уступае у моц аднача сна з асобным палажэньнем аб землях, адведзеных воднаму транспарту, падлягаючым зацьверджаньню у заканадаўчым парадку.

**2.** З усіх зямель, пазначаных у п. „а" арт. 1, як забудаваных, гэтак і незабудаваных і не вынятых ад абкладаньня, згодна арт. 3 або парадку арт. 6 гэтага дэкрэту, спаганяецца у аднолькавым (з выняткам, паказаным у арт. 8) дзеля усіх зямельных вучасткаў кожнага месту памера аснаўная рэнта, якая паступае у агульнадзяржаўны прыбытак. Зьверх таго, у меры рознасьці прыбытковасьці вучасткаў у залежнасьці ад месцапалажэньня і іншых умоваў спаганяецца дадатковая рэнта, якая зварочваецца у мясцовыя бюджэтныя рэсурсы гэтага месту.

**3.** Ад спагнаньня рэнты у местах звальняюцца землі, знаходзячыяся: 1) пад рэкамі, каналамі, вазёрамі,

прудамі і балотамі; 2) пад вуліцамі, перавулкамі і плошчамі, апрача вучасткаў, скарыстоўваемых дзеля рынačных мэтаў; 3) пад грамадзянскімі гарадзкімі садамі, скверамі, бульварамі, паркамі дзецкімі пляцоўкамі, спортыўнымі стадзіонамі фізкультуры і гэтаму падобнымі месцамі грамадзянскага карыстаньня; 4) пад крэпастнымі пабудовамі і ваенымі партамі; 5) пад будовамі, занятымі замежнымі дыплёматычнымі прадстаўніцтвамі, пры умове ўзаемнасьці, а таксама часова; 6) землі, знаходзячыяся пад будынкамі з належачымі да іх дваровымі месцамі, занятымі дзяржорганамі, знаходзячыміся на агульнадзяржаўным або мясцовым бюджэце.

**4.** Аснаўная дадатковая рэнта з зямель, пазначаных у п. „б“ арт. 1, спаганяецца толькі з вучасткаў, знаходзячыхся у карыстаньні розных юрыдычных і фізычных асобаў, калі пры гэтым карыстацялі не адносяцца да ліку паказаных у п. 6 арт. 3. Аснаўная рэнта спаганяецца у прыбытак казны, а дадатковая ідзе у прыбытак народнага камісарыяту шляхаў зносін у складзе арэнднай платы.

**5.** Рэнта вылічаецца у квадратовымі сажні зямельных вучасткаў і спаганяэцца з тых фізычных і юрыдычных асобаў, у карыстаньні якіх знаходзяцца зямельныя вучасткі.

**6.** Стаўкі (пасажнёвыя аклады) аснаўной рэнты устанаўліваюцца (з выняткам, паказаным у арт. 8) па местам і паветам (дзеля зямель, дадзеных транспарту), у парадку агульнасаюзнага заканадаўства на падставе довадаў, зьбіраемых і апрацоўваемых цэнтральнай ацэначнай камісіяй Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік (арт. 3) па мамеркаваньню з вялічынёй чыстай сярэдняй прыбытковасьці прылягаючых да места (або да чыгункі) земляў сельска-гаспадарчага карыстаньня, з вялічынею арэнднай платы, спаганяемай за гэтыя землі, і з іншымі эканамічнымі момантамі.

**7.** Стаўкі (пасажнёвыя аклады) дадатковай рэнты устанаўліваюцца саветамі народных камісараў асобных рэспублік, губэрскімі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі у межах, устаноўленых у парадку агульнасаюзнага заканадаўства, па часткам места (кварталам і вуліцам) і па спосабам скарыстаньня зямельных вучасткаў і пабудаваньню і назначэньню пабудаваных на іх будынкаў. Вялічыня ставак вызначаецца водлуг памеркаваньняў: а) з сярэднімі дзеля гэтага району або выгляду маемасьці вялічыняй падаючай на 1 кв. саж. землі прыбытковасьці маемасьці, за вылікам усіх выдаткаў па эксплёатацыі і процантаў на капітал, заключаючыйся у каштоўнасьці будынкаў і ў мэліорацыях зямельных вучасткаў, а роўна амартызацыі гэтага капіталу; б) з адносінамі сярэдняй дзеля гэтага району і выгляду маемасьці арэнднай платы, падаючай на 1 кв. саж. зямельнага вучастку, да найменьшай у гэтым месьце арэнднай платы па належным маемасьцям.

> Увага. Стаўкі дадатковай рэнты з зямель, дадзеных транспарту, устанаўліваюцца народным камісарыятам шляхаў зносін і зацьверджаюцца цэнтральнай ацэначнай камісіяй Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік (з выняткам, паказаным у арт. 8).

**8.** Стаўкі аснаўной і дадатковай рэнты дзеля дзяржпрадпрыемстваў, знаходзячыхся у веданьні цэнтральных гаспадарчых органаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік, устанаўліваюцца Саветам Працы і Абароны на падставе довадаў, зьбіраемых і апрацоўваемых цэнтральнай ацэначнай камісіяй Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік. Стаўкі аснаўной і дадатковай рэнты дзеля дзяржпрадпрыемстваў, знаходзячыхся у веданьні цэнтральных гаспадарчых органаў саюзных рэспублік, устанаўліваюцца эканамічнай нарадай належнай саюзнай рэспублікі на падставе довадаў, зьбіраемых і апрацоўваемых цэнтральнай ацэначнай камісіяй гэтай рэспублікі.

**9.** Правілы аб арганізацыі ацэначных камісіяў і парадак іх дзейнасьці устанаўліваюцца асобным палажэньнем.

Аснаўныя палажэньні па ужываньню гэтага дэкрэту, у асобку аб парадку спаганьня рэнты, аб устанаўленьні асобых льготаў і выняткаў і аб пашырэньні спаганяемых сумаў, зацьверджаюцца Саветам Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік асобна, па падачы народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік, улагоджанаму з камісарыятам замежнага гандлю, вышэйшым саветам народнай гаспадаркі і народным камісарыятам шляхаў зносін Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік, а таксама з народным камісарыятам унутраных справаў саюзных рэспублік і іншымі зацікаўленымі ведамствамі Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік і саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
12 лістападу 1923 г. Масква – Крэмль.

---

## 319. Палажэньне аб ацэначных камісіях, утвараемых на падставе дэкрэту аб спагнаньні рэнты з зямель гарадзких і дадзеных транспарту.

**1.** Дзеля агульнага кіраваньня ацэначнай працай па учоту рэнты, як з гарадзкіх, гэтак і з звонку гарадзкіх зямель і лясоў, і па выпрацоўцы ставак рэнты утвараюцца цэнтральныя ацэначныя камісіі:

а) пры Савеце Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік пад старшынством асобы, назначаемай Саветам Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік, у складзе прадстаўнікоў народнага камісарыяту грашовых справаў, вышэйшага савету народнай гаспадаркі, камісіі па унутранаму гандлю, народнага камісарыяту шляхаў зносін, цэнтральнага статыстычнага упраўленьня, усерасійскага цэнтральнага савету прафэсыянальных саюзаў, а таксама прадстаўнікоў народных камісарыятаў земляробства і народных камісарыятаў унутраных справаў саюзных рэспублік, пэрсанальна назначаемых Саветам Працы і Абароны.

б) пры эканамічных нарадах саюзных рэспублік, пад старшынством асобы, назначаемай эканамічнай нарадай належнай саюзнай рэспублікі, у складзе прадстаўнікоў народнага камісарыяту шляхаў зносін, народнага камісарыяту грашовых справаў, вышэйшага савету народнай гаспадаркі, цэнтральнага статыстычнага упраўленьня, камісіі па унутранаму гандлю, народнага камісарыяту земляробства і народнага камісарыяту унутраных справаў належнай саюзнай рэспублікі.

Увага. У цэнтральную аценачную камісію РСФСР па пытаньням, датычным рэнты і вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў па тэрыторыі Кіргізкай і Туркестанскай рэспублік, уваходзяць на правах сяброў камісіі прадстаўнікі саветаў народных камісараў вышэйпамянёных аўтаномных рэспублік.

2. На цэнтральную аценачную камісію Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік ўскладаецца:

а) выпрацоўка агульнага палажэньня і падрабязных правілаў аб учоту рэнты з забудаваных і незабудаваных зямельных вучасткаў (зямель сельска-гаспадарчага значаньня, лясоў, гарадзкіх зямель, будоваў, фабрыкаў, заводаў і інш.) і аб вызначэньні прыбытковасьці зямель і будоваў, з падачай агульнага палажэньня на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны;

б) зацьверджаньне пляну і праграмы, зьбіраньне аценачна-статыстычных ведаў па ўсяму Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, неабходных дзеля выпрацоўкі ставак рэнты і дзеля вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў, а таксама зацьверджаньне належных інструкцыяў;

в) канчатковае разгляданьне проэктаў ставак аснаўной рэнты і падача іх на законадаўчае зацьверджаньне;

г) зацьверджаньне ставак дадатковай рэнты зямель, дадзеных транспарту;

д) выпрацоўка ставак аснаўной і дадатковай рэнты дзеля дзярж. прадпрыемстваў, знаходзячыхся ў веданьні цэнтральных гаспадарчых органаў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік у парадку арт. 8 дэкрэту аб спагнаньні рэнты з зямель гарадзкіх і дадзеных транспарту;

е) разьвязваньне усіх агульных пытаньняў, датычных учоту рэнты і падставаў дзеля вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў;

ж) агульнае кіраваньне працай цэнтральных аценачных камісіяў саюзных рэспублік.

3. На цэнтральныя аценачныя камісіі саюзных рэспублік ускладаецца:

а) разгляданьне ставак аснаўной рэнты і падставаў вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў, выпрацовываемых губэрскімі выканаўчымі камітэтамі, краіннымі выканаўчымі камітэтамі і саветамі народных камісараў аўтаномных рэспублік, і падача іх праз цэнтральную аценачную камісію Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік на зацьверджаньне у парадку агульна-саюзнага законадаўства;

б) зацьверджаньне ставак дадатковай рэнты, выпрацовываемых у парадку арт. 5 гэтага палажэньня;

в) выпрацоўка ставак аснаўной і дадатковай рэнты дзеля дзяржпрадпрыемстваў, знаходзячыхся у веданьні цэнтральных гаспадарчых органаў належнай саюзнай рэспублікі у парадку арт. 8 дэкрэту аб спагнаньні рэнты з зямель гарадзкіх і дадзеных транспарту;

г) разьвязваньне жальбаў на устанаўленьне ставак дадатковай рэнты аценачнымі камісіямі губэрняў, краін і аўтаномных рэспублік;

д) развязваньне пытаньняў, зьявіўшыхся у аценачных камісіях краінаў, губэрняў і аўтаномных рэспублік, а таксама нагляд і агульнае кіраваньне іх дзеяльнасьцю.

Увага. Цэнтральнай аценачнай камісіі Закаўказкай Социялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі даецца, з зацьверджаньня эканамічнай нарады Закаўказкай Социялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі, права устанаўліваць, пры якіх рэспубліках Закаўказкай Социялістычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі аценачныя камісіі утвараюцца на правах губэрнскіх і пры якіх—на правах павятовых.

4. У аўтаномных рэспубліках, ня маючых губэрскага падзелу, краінах і асобных губэрнях, пры саветах народных камісараў памянёных рэспублік, пры губэрскіх выканаўчых камітэтах і пры краінных выканаўчых камітэтах утвараюцца аценачныя камісіі пад старшынством асобы, назначаемай вышэй паказанымі органамі, у складзе прадстаўнікоў ведамстваў: народнага камісарыяту земляробства, народнага камісарыяту унутраных справаў, цэнтральнага статыстычнага упраўленьня, вышэйшага савету народнай гаспадаркі і прадстаўнікоў губэрскага саюзу спажывецкіх таварыстваў і біржавога камітэту, гдзе такі маецца.

5. На аценачныя камісіі, наэначаныя у арт. 4 ускладаецца:

а) у межах агульнасаюзнага пляну і праграмаў аценачнай працы і згодна інструкцыі цэнтральнай аценачнай камісіі Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, зацьверджаньне шляху і праграмы, зьбіраньне аценачна статыстычных ведаў на губэрні (рэспубліцы, краіне), дзеля выпрацоўкі ставак рэнты і падставаў вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў;

б) складаньне і падача у цэнтральную аценачную камісію належнай саюзнай рэспублікі праэктаў ставак аснаўной рэнты;

в) складаньне і падача у губэрскі выканаўчы камітэт (краінны выканаўчы камітэт або належны савет народных камісараў) на зацьверджаньне проэкту ставак дадатковай рэнты па местам і паветам (або належным ім іншым адміністратыўным адзінкам) губэрні (краіны, аўтаномнай рэспублікі (у межах агульных нормаў, устаноўленных аценачнай камісіяй належнай саюзнай рэспублікі;

г) разьвязваньне жальбаў на устанаўленьне ставак дадатковай рэнты павятовымі (і належнымі павятовым) аценачнымі камісіямі;

д) вытлумачэньне асобных пытаньняў, паўстаўшых у павятовых (і падобных ім) аценачных камісіях, а таксама нагляд і кіраваньне іх дзеяльнасьцю.

Увага. Аценачныя камісіі губэрняў, ўваходзячых у склад аўтаномных Кіргізкай і Туркестанскай рэспублік, у парадку спаўненьня ускладзеных на іх гэтым артыкулам абавязкаў, маюць непасрэдныя зносіны з цэнтральнай аценачнай камісіяй РСФСР.

6. Дзеля дэталізацыі, у межах агульных нормаў, устаноўленых цэнтральнымі аценачнымі камісіямі саюзных рэспублік і губэрскімі (або падобнымі ім) аценачнымі камісіямі ставак рэнты, утвараюцца пры павятовых выканаўчых камітэтах (або падобных ім органах) павятовыя аценачныя камісіі над старшынством асобы, назначаемай павятовым выканаўчым камітэтам (або падобным органом) у складзе: фінансавага інспэктара і прадстаўнікоў павятовага зямельнага аддзелу, павятовага статыстычнага бюро і агульнага аддзелу павятовага выканаўчага камітэту.

7. На павятовыя аценачныя камісіі ускладаецца:

а) падача у губэрскую (або падобную ей) аценачную

камісію матар'ялаў дзеля устанаўленьня ставак рэнты як аснаўной, гэтак і дадатковай;

б) дэталізацыя, у межах агульных нормаў, устаноўленых губэрскай (або падобнай ей) ацэначнай камісіяй ставак дадатковай рэнты;

в) разгляданьне супярэчак проціу ставак, устаноўленых павятовай ацэначнай камісіяй па п. „б" гэтага артыкулу.

**8.** Пасяджэньні губэрскіх і павятовых (і падобных ім) ацэначных камісіяў назначаюцца водлуг патрэбы старшынямі гэтых камісіяў і прызнаюцца споўніўшыміся пры прысутнасьці ня меньш 3 сябраў, ня лічучы старшыні ці яго намесьніка, а таксама прадстаўнікоў губэрскага саюзу спажывецкіх таварыстваў і біржавога камітэту (арт. 4).

**9.** Пры ацэначных камісіях як у цэнтры, гэтак і на мясцох ня ўтвараецца асобнага апарату і усё дзелаводзтва гэтых камісіяў ускладаецца, па належнасьці, на цэнтральнае статыстычнае упраўленьне і яго мясцовыя органы.

**10.** Выпрацоўка пляну, праграмаў і інструкцыяў ацэначнай працы, датычных учоту і нарміраваньня абкладаньня рэнты як гарадзкіх, гэтак і звонку гарадзкіх зямель, а таксама падставаў вызначэньня прыбытковасьці зямель і будоваў на усей тэрыторыі Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ускладаецца на цэнтральнае статыстычнае упраўленьне.

Гэты плян, праграмы і інструкцыі зацьверджаюцца цэнтральнай ацэначнай камісіяй Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік (арт. 2, п. „б").

**11.** Тэхнічнае правядзеньне ацэначнай працы, як у адносінах зьбіраньня і распрацоўкі неабходных ацэначных статыстычных матар'ялаў, гэтак і ў адносінах выпрацоўкі на падставе гэтых матар'ялаў проэктаў ацэначных нормаў, ускладаецца на цэнтральнае статыстычнае упраўленьне Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і яга мясцовыя органы.

**12.** Зараз жа пасьля зацьверджаньня гэтага палажэньня аб ацэначных камісіях, апошнія прыступаюць да выкананьня ускладзеных на іх гэтым палажэньнем абавязкаў, і ў першую чаргу цэнтральная ацэначная камісія Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік зацьверджае інструкцыю аб парадку зьбіраньня матар'ялаў і выпрацоўкі ставак дзеля спагнаньня рэнты з зямель гарадзкіх і дадзеных транспарту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

---

## 320. Па пытаньню аб ажыцьцяўленьні рэнтнага абкладаньня.

**1.** Прэзыдыуму ЦВК даручаецца стаўкі (пасажаныя аклады) аснаўнай рэнты на бягучы бюджэтны год устанавіць у мінімальнай вялічыні.

**2.** Савету Народных Камісараў Саюзу ССР даручаецца у двухтыднёвы тэрмін распрацаваць і зацьвердзіць аснаўныя палажэньні па ужываньню дэкрэту аб спагнаньні рэнты з зямель гарадзкіх і дадзеных транспарту.

**3.** Савету Народных Камісараў Саюзу ССР даручаецца пры распрацоўцы аснаўных палажэньняў, паказаных у п. 2, зволіць ад рэнтнага абкладаньня землі, знаходзячыяся пад дварцамі працы, пад хатамі, занятымі профэсыянальнымі арганізацыямі, рабочымі клюбамі і хатамі—камунамі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Чэрвякоў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

12 лістападу 1923 г. Масква—Крэмль.

# У ДАДАТАК ДА ВЕСЬНІКУ

Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Социалістычных Рэспублік апублікаваны:



ДАДАТКІ ДА ВЕСЬНІКУ РАЗСЫЛАЮЦЦА ПЕРАДПЛАТЧЫКАМ ВОДЛУГ АДУНЫСЛОВАЕ ПАДПІСКІ.


Главлит № 16.705. Тираж 5.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий" Изд-ва „Красная Новь", Пименовская ул., 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ І ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі дввадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10 і 11.*

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:

МАСКВА — КРЭМЛЬ — ЦВК САЮЗУ ССР.

ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

---

**ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА**

**ГАЛОЎНАЙ КАНТРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ“.**

МАСКВА, Цьвярская, 48.

(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ“ ЦВК САЮЗУ ССР І ЎЦВК).